*Дырэктар Камароўскага рынка не ведае слова «прадпрымальнік» (стар. 2)*
*«Ванька-встанька»: штрыхі да багатай біяграфіі Івана Антановіча (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 24 студзеня 1997 г. № 7 Кошт свабодны

## Да дэманстрацыі рыхтуюцца і апазіцыя, і ўлады

**Шэсце і мітынг у абарону незалежнасці Беларусі і ў падтрымку народных пратэстаў у Сербіі і Балгарыі збіраецца правесці ў суботу, 25 студзеня, Беларускі народны фронт.**

Адпаведная заяўка ініцыятыўнай групы пададзеная ў Мінгарвыканкам. Удзельнікі шэсця мяркуюць сабрацца а 13-й гадзіне на плошчы Я.Коласа і адтуль прайсці да Опернага тэатра, дзе адбудзецца мітынг.

Сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык патлумачыў неабходнасць правядзення акцыі тым, што Беларусь не павінна выпадаць з еўрапейскага кантэксту барацьбы за дэмакратыю. На яго думку, лозунг XIX ст. *«За нашу і вашу свабоду»* сёння вельмі актуальны. Галоўнай рухаючай сілай народных выступленняў у Бялградзе і Сафіі з'яўляецца моладзь, студэнцтва. Моладзь выходзіла і на мінскія вуліцы вясной 96-га. В.Сіўчык спадзяецца, што і ранняя палітычная вясна 1997г. не абыдзецца без удзелу маладых.

Прэвентыўныя меры дзеля таго, каб як мага менш людзей прыняло ўдзел у вулічных акцыях, пачалі прадпрымаць і ўлады. Так, 22 студзеня ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Мінска было выклікана некалькі чалавек, схопленых пасля маніфестацыі 8 снежня і пакараных судом рознымі тэрмінамі арышту і штрафамі. Пракуратура правяла размову з Ірмай Табушавай, Міколам Статкевічам, Уладзімірам Зорчанкам і іншымі грамадзянамі, каб *«вырашыць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па фактах непадпарадкавання супрацоўнікам міліцыі»* (так патлумачыў мэту выклікаў следчы пракуратуры В.Магарыл). Калі ўзгадаць справу ўкраінцаў, якіх пакаралі спачатку адміністратыўна, а потым асудзілі па крымінальнаму артыкулу, то цалкам верагодна, што ўлады і на гэты раз могуць зрабіць тое самае.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*А дзе ж «совесть»?*

## Фронт зноў каля Расійскага пасольства

**Учора прадстаўнікамі БНФ зноў быў наладжаны пікет каля пасольства Расіі ў Мінску.**

Пікетчыкі пратэставалі супраць памкненняў кіраўніцтва Расіі вырашыць геапалітычныя праблемы сваёй краіны за кошт Беларусі: *«Расія! Плаці за свае вайсковыя базы»*, *«Расія! Плаці за свае трубы»* — з такімі ды іншымі падобнымі лозунгамі каля расійскага пасольства сабраліся прыкладна 20 чалавек. Міліцыянтамі былі складзены пратаколы аб адміністратыўным правапарушэнні на арганізатараў пікета Лявона Баршчэўскага і Сяргея Папкова.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Пікеты каля Вярхоўнага суда

**Вызваліць Славаміра Адамовіча патрабавалі актывісты БНФ, якія ў аўторак пікетавалі ў Мінску будынак Вярхоўнага суда.**

Пікетаванне праходзіла пад лозунгамі *«Свабоду паэту»*, *«Спыніць палітычныя працэсы»*, *«За вершы судзілі пры Гітлеры і Сталіне»*, *«Сёння за кратамі С.Адамовіч. Хто заўтра?»*.

Арганізатараў акцыі Лявона Баршчэўскага, Вячаслава Сіўчыка, а таксама маці Адамовіча Юзэфу Чантарыйскую прыняў дарадца старшыні Вярхоўнага суда Славамір Антановіч, які заявіў, што працэсуальныя патрабаванні не дазваляюць ВС умешвацца ў дзеянні Віцебскага абласнога суда, але Вярхоўны суд прыме ўсе меры для таго, каб працэс не зацягваўся.

Славамір Адамовіч ужо 10 месяцаў знаходзіцца ў зняволенні за публікацыю ў віцебскай газеце «Выбар» свайго верша «Убей президента». Разам з ім па справе праходзяць рэдактар «Выбару» Барыс Хамайда і карэспандэнт газеты Уладзімір Плешчанка. Працэс праходзіць у віцебскім абласным судзе, але цяпер ён адкладзены ў сувязі з хваробай Плешчанкі.

Тым часам адміністрацыя турмы, нібыта за сварку з ахоўнікам, змясціла Адамовіча на 10 сутак у штрафны ізалятар.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Галасаваць па-савецку «сенатары» не развучыліся

**Верхняя палата лукашэнкаўскага парламента — савет рэспублікі абрала чатырох з пяці кіраўнікоў сваіх пастаянных камісій.**

Праўда, выбарамі гэтую працэдуру назваць цяжка, паколькі галасаванне было безальтэрнатыўным, адкрытым, а падчас абмеркавання не прагучала ніводнай крытычнай заўвагі ў бок кандыдатаў.

У выніку партфелі старшынь камісіяў без праблем атрымалі наступныя таварышы. Былы старшыня Вярхоўнага суда Уладзімір Каравай ўзначаліў камісію па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве. Інэса Драбышэўская, якая яшчэ нядаўна была міністрам аховы здароўя, атрымала пасаду кіраўніка камісіі па сацыяльных пытаннях. Міхаіл Матусевіч будзе камандаваць камісіяй па эканоміцы, бюджэту і фінансах, а Альфонс Цішкевіч — камісіяй па рэгіянальнай палітыцы. Пятая камісія — па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы — засталася пакуль без кіраўніка. Вырашана было пакінуць яе ў рэзерве і дачакацца, калі прэзідэнт цалкам укаплектуе «сенат». (А хутчэй за ўсё, ад яго проста не атрымалі ўказання, каго прызначыць старшынёй гэтага «аддзела».)

Дарэчы, папрацаваўшы ў даволі актыўным рэжыме ўсяго адзін дзень — сераду, «сенатары», відаць, настолькі стаміліся, што раніцай у чацвер не здолелі нават забяспечыць кворум для паседжання.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Лябедзьку ў Парыжы не дачакаліся

**Дэпутат Вярхоўнага Савета 13 скліканн Анатоль Лябедзька не змог паехаць у Парыж і Страсбург па запрашэнні ўрада Францыі.**

Падчас візіту планаваліся сустрэчы з кіраўніцтвам Нацыянальнага сходу Францыі, старшынямі парламенцкіх фракцый і палітычных партый, у міністэрства замежных справаў. Аднак ад паездкі давялося адмовіцца, паколькі Анатоль Лябедзька ўваходзіць у «чорны» спіс дэпутатаў, якія не маюць права перасякаць мяжу Беларусі па дыпламатычным пашпарце. Не змог дэпутат скарыстаць і агульнаграмадзянскі замежны пашпарт. Яшчэ ў снежні мінулага года Анатоль Лябедзька пачаў афармленне дакументаў у АВІРы, аднак там чакаюць дазволу з КДБ.

Як паведаміў А.Лябедзька, яму вядома, што з КДБ у адрас кіраўніка «палаты прадстаўнікоў» А.Малафеева прыйшоў запыт, ці з'яўляюцца чатыры дэпутаты, у тым ліку і А.Лябедзька, носьбітамі дзяржаўных сакрэтаў. Адказу пакуль няма. Атрымліваецца, што Анатоль Малафееў не пускае Анатоля Лябедзьку за мяжу.

*БелаПАН*

## Прафсаюзы гатовыя да масавых акцый пратэсту

**Беларуская незалежная асацыяцыя прафсаюзаў прамысловасці (БНАПП) выступіла з заявай з нагоды рэзкага росту спажывецкіх цэнаў.**

*«У апошнія дні крайне абвастрылася сітуацыя на спажывецкім рынку,* — гаворыцца ў заяве. — *Тэндэнцыя росту цэн пастаянная і практычна не кантралюецца»*. У той жа час, адзначаецца ў заяве, заработная плата на прамысловых прадпрыемствах калі і павялічваецца, то нязначна і не перакрывае расходы працоўных; на многіх прадпрыемствах зарплата значна ніжэйшая за мінімальны спажывецкі бюджэт; працягвае павялічвацца запазычанасць па зарплаце.

БНАПП заклікае ўсіх рабочых падтрымаць патрабаванні прафсаюзаў па павышэнні заработнай платы ў студзені—лютым не менш чым на 30-40%, а таксама ўнесці гэтыя патрабаванні ў тарыфныя пагадненні і калектыўныя дагаворы. Урад і іншыя працадаўцы, лічаць прафсаюзы прамысловасці, павінны забяспечыць апераджальны рост зарплаты да росту цэнаў.

Калі гэтыя патрабаванні і прапановы не будуць задаволеныя, адзначаецца ў заяве, прафсаюзы будуць вымушаныя адстойваць іх масавымі акцыямі пратэсту.

*БелаПАН*

## Долары – толькі на нафту

**Нацыянальны банк Беларусі ўвёў жорсткія абмежаванні на куплю-продаж цвёрдай валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы.**

Цяпер валюту можна набыць выключна пад закупку паліва і энерганосьбітаў. Такім чынам, фактычна робіцца немагчымым імпарт у Беларусь медыкаментаў, прадуктаў харчавання і іншых тавараў.

*БелаПАН*

## Мяжа з Украінай

**Чакаецца, што дамова аб усталяванні беларуска-ўкраінскай мяжы будзе падпісаная ў першым квартале гэтага года.**

Працягласць беларуска-ўкраінскай мяжы — каля 975 кіламетраў. Цяпер яе кантралююць не памежныя войскі, а служачыя міністэрства ўнутраных справаў і мытнікі.

**А.А.**

## МЗС загадалі прарываць ізаляцыю

**Пасля кардынальных кадравых перастановак міністэрства замежных справаў выглядае не «эфектыўным і дынамічным», як гэтага хацеў Лукашэнка, а хутчэй развaленым і разгубленым.**

У мінулы аўторак на пашыранай калегіі МЗС прэзідэнт Лукашэнка аб'явіў свае ўказы аб прызначэнні цяперашняга беларускага пасла ў Вашынгтоне Сяргея Мартынава першым намеснікам міністра, а Ніну Мазай (пасла ў Парыжы) намеснікам міністра. Новае кіраўніцтва знешнепалітычнага ведамства на чале з Антановічам павінна пераадолець ізаляцыю з боку еўрапейскіх краінаў, да якой прывялі аўтарытарныя дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі. Ім даверана пераканаць урады заходніх краінаў і ўплывовыя міжнародныя арганізацыі, што ў Беларусі *«дэмакратыі больш, чым у Францыі»*. Менавіта так заявіў Лукашэнка дэлегацыі Савета Еўропы пасля рэферэндуму.

На калегіі МЗС Рыгоравіч аб'явіў пра пачатак *«прынцыпова новага этапу ў развіцці беларускай дыпламатыі»*. Тым часам Іван Антановіч выказаў крыўду на еўрапейскія арганізацыі, што яны, маўляў, не так зразумелі сітуацыю ў Беларусі. Па настойлівых просьбах беларускага боку 26 студзеня на цэлы тыдзень у Мінск прыбывае місія Еўрапейскага Саюза (8 эспертаў — ЕС, Савета Еўропы і АБСЕ) пад кіраўніцтвам члена дзяржсавета Нідэрландаў Ары Касто. Назіральнікі павінны ўстанавіць, ці падвяргаюцца беларуская апазіцыя і сродкі масавай інфармацыі палітычнаму, фінансаваму і фізічнаму ўціску. Як паведамілі ў прэс-службе МЗС, *«эксперты могуць сустрэцца з усімі, з кім пажадаюць»*.

Між тым і сам Іван Антановіч апынуўся сёння ў ізаляцыі. З трох ягоных намеснікаў на месцы толькі адзін Міхаіл Хвастоў, які курыруе азіяцкі вектар. А новапрызначаныя намеснікі да працы яшчэ не прыступілі. Сяргей Мартынаў сказаў у размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ, што днямі ён ад'язджае на старое месца працы ў Вашынгтон і не ведае дакладна, калі вернецца ў Мінск. С.Мартынаў з 1992 года ўзначальваў беларускую амбасаду ў ЗША. Сваім новым прызначэннем ён цалкам задаволены.

Намеснік міністра Ніна Мазай таксама паехала развітвацца з Парыжам і збіраць свае рэчы. Калі яна вернецца ў Мінск — пакуль невядома. А тым часам былыя кіраўнікі МЗС Уладзімір Сянько і Валерый Цэпкала чакаюць агрэманаў з Францыі і ЗША на пасольскія пасады.

Вызвалілася і пасада пасла ў Чэхіі, якую займаў Мікалай Вайцянкоў (цяпер ён зноў стаў старшынёй Гомельскага аблвыканкама).

Учора на брыфінгу ў МЗС намеснік міністра Міхаіл Хвастоў паведаміў некаторыя дэталі прайшоўшаў калегіі. Прэзідэнт Лукашэнка патрабуе ад дыпламатаў знайсці паразуменне з краінамі Еўрапейскага саюза, наладзіць адносіны з суседнімі Польшчай, Літвой і Латвіяй. Апошнім часам, як сказаў Хвастоў, прэзідэнту давялося на словах *«аднаўляць давер да Беларусі як да дзяржавы»*. Што да дыялогу са Злучанымі Штатамі, то ён *«складаны і цяжкі»*, а палітыка з боку ЗША да Беларусі *«жорсткая»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Дзве няпраўды ў адным навагоднім віншаванні

У сваім навагоднім віншаванні Рыгоравіч па меншай меры двойчы схлусіў. Цытую: *«Никого не оставил равнодушным прошедший референдум... Сделан решительный шаг от безвластия и хаоса к стабильности, спокойствию и подлинной демократии»*. І далей: *«Год 1996-й войдет в историю... Белорусы и россияне опять вместе, как это было на протяжении многих столетий»*.

Першая хлусня — пра рэферэндум. Прэзідэнт Лукашэнка правёў ужо два рэферэндумы, і ўсё гэта рабілася з вялікімі парушэннямі дэмакратычных нормаў законаў і Канстытуцыі. Народ быў абалванены аднабокай прапагандаю, а іншыя погляды немагчыма было выказаць. Гітлер, якога ў свой час хваліў Рыгоравіч, правёў ажно 5 рэферэндумаў, але ніхто не лічыць гітлераўскі Рэйх сапраўднаю дэмакратычнаю дзяржавай. Увогуле, рэферэндум сапраўды можа быць дэмакратычным, але лукашэнкаўскі фарс з «подлинной демократией» нічога агульнага не мае.

Другая хлусня — што беларусы і расіяне былі разам на працягу многіх стагоддзяў. Толькі два стагоддзі таму назад адбылося прымусовае далучэнне нашых земляў да Расійскай імперыі — як вынік злачыннай змовы расійскай імператрыцы, прускага караля і аўстрыйскага імператара і падзелаў Рэчы Паспалітай. Адбылася фактычная акупацыя Беларусі Расіяй.

А раней беларусы (ліцвіны) і расіяне заўсёды жылі паасобку. На працягу каля 500 гадоў паміж Літоўскім і Маскоўскім княствамі вяліся амаль няспынныя войны. Дарэчы, Маскоўскае княства (Масковія) пачало называцца Расіяй, а маскавіты — вялікаросамі толькі ў канцы XV ст. А яшчэ ў Масковіі ў тыя часы жыло ў 5 разоў менш насельніцтва, чым у Літве, і яго склад быў, мякка кажучы, не вельмі славянскім.

Рыгоравіч па адукацыі гісторык і, напэўна, добра ведае, якія на самой справе былі адносіны паміж беларусамі і расіянамі «на протяжении многих столетий»... Але чаго не зробіш для свайго электарату і маскоўскіх гаспадароў. Электарат тады не жыў, а кніжак па гісторыі не чытае і чытаць не хоча.

Хачу нагадаць Рыгоравічу: праваслаўная царква, якую прэзідэнт выбраў сабе ў паплечнікі, сярод дзесяці запаведзяў вучыць: «Не падмані». А парушэнне запаветаў — вялікі грэх.

**М.ГІРКО,** *г.Мінск*

# Для чего вас надо держать в тюрьме

Уважаемая редакция! В вашей газете под заголовком «За что нас держат в тюрьме?» было опубликовано письмо А.Дербеня, который возмущается тем, что его и ему подобных страстных любителей алкоголя якобы незаслуженно изолировали в ЛТП. Я хочу поставить вопрос иначе: «Для чего вас надо держать в тюрьме». А вот для чего! Для того, чтобы члены вашей семьи отдохнули хоть какое-то время от вас. Чтобы они, хоть на время, получили самое необходимое человеку — спокойствие и мир в доме. Чтобы после трудового дня спокойно могли отдыхать, а не сражаться с озверевшим алкашом. Чтобы в наше тяжелое время копейка, имеющаяся в доме, пошла на приобретение самого необходимого семье, а не на пропой озверевшего от водки.

Вы, «уважаемый», ссылаетесь на права человека и говорите о правовом государстве. Так вот: правовое государство — это государство, в котором строго защищаются права нормального человека-труженика, права детей от оборзевшего и озверевшего пьяницы. Ведь в квартирах нет изолятора, куда можно закрыть разбушевавшегося алкоголика. Тут пьянице такое поле деятельности: ходи на рогах сколько хочешь и как хочешь.

У меня часто возникает вопрос: почему буйных психбольных содержат в специальных камерах с железными решетками и крепкой дверью. А алкоголик — разве не такой-же буйный сумасшедший? Почему он ходит на воле и истязает окружающих?

Так что ликвидировать ЛТП и наркобольницы никак нельзя. Другое дело — создать в этих учреждениях более нормальные условия (питание, быт). Ведь за счет алкоголя (а следовательно, за счет пьянства) в бюджет поступает огромное количество денег. Пьяница отдает отечеству последнюю копейку. Так пусть отечество из этих огромных прибылей отчисляет какое-то количество на содержание этих учреждений.

Прошу мою фамилию не печатать — я страдаю от сына-алкоголика.

**Г.С.,** *г.Кобрин*

# Вышибить конюха из Дома Колхозника

С интересом прочитал в газете СВАБОДА 27 декабря 1996 года статью Вячеслава Оргиша «Феномен лукашизма». С одним только тезисом, высказанным автором, я не могу согласиться. Считаю его ошибочным и в перспективе весьма опасным.

В статье Оргиш утверждает, что у белорусской оппозиции *«есть шанс превратить поражение в победу»*. Мол, *«Лукашенко вполне может, хочет и должен претендовать на кремлевский престол»*. И в такой ситуации оппозиции якобы *«следует всячески содействовать ему в этом стремлении»*.

Но допустим, что таким образом Беларусь сплавит своего диктатора в Россию. Да, это было бы для белорусских демократических сил большой победой, но при одном условии: Лукашенко из Минска, из Дома колхозника навсегда уезжает в Москву, в Кремль, и никогда назад не возвращается. Однако вся наша беда в том, что он может попасть в Кремль лишь в том случае, если пристегнет Беларусь к России. Иначе в Москве с ним даже Жириновский не станет разговаривать.

Но если произойдет, что Беларусь станет пятым колесом в российской телеге, а в Кремле будет ею управлять шкловский конюх, то нам от этого легче не станет. Мы по-прежнему будем тем быдлом, на котором он будет пахать и сеять. И что самое страшное — этот конюх с диктаторскими замашками может погнать свое быдло на убой. Ведь ни для кого не секрет его воинственное отношение к *NATO*.

Поэтому, на мой взгляд, основная задача белорусской оппозиции и всех демократических сил республики не подталкивать Лукашенко на кремлевский трон, а вышибить его из Дома колхозника.

**В.РОГОВИЧ,** *г.Минск*

# А як з душой?

Прыгадваю, як падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі сам мітрапаліт Філарэт ды многія іншыя іерархі праваслаўнай царквы адкрыта агітавалі галасаваць за Кебіча. Тады падтрымка праваслаўнай царквы была неэфектыўнай — выбралі не Кебіча, а Лукашэнку. Прычым галасавалі за Лукашэнку найбольш у тых раёнах, якія лічацца традыцыйна праваслаўнымі. Гэта гаворыць аб тым, што рэальны ўплыў беларускай праваслаўнай царквы на думкі вернікаў вельмі нізкі.

Відаць, падтрымліваючы цяпер Лукашэнку, БПЦ спадзяецца падвысіць сваю папулярнасць. Вось скажа Лукашэнка: «Усе — у царкву!», і людзі туды валам паваляць.

Толькі вось як з душой будзе?

**В.ЛІПСКІ,** *Докшыцкі р-н*

# Я выступаю за автокефальную церковь

Здравствуйте, уважаемые журналисты и читатели газеты СВАБОДА!

Прочитала я во втором номере статью Виталия Цыганкова «Рэлігійная палітыка ці палітычная рэлігія?» и хотела бы продолжить обсуждение этой темы. На мой взгляд, одной из причин кризиса в Беларуси является отсутствие в стране своей, независимой, автокефальной, национальной церкви. Во всех странах люди имеют возможность молиться, слушать Литургию на своем языке, исповедоваться священнослужителям своей национальности. А у нас получается, что католиками, что греха таить, управляют в основном из Польши, православными — из Москвы, протестантами — из Европы и Америки. А у кого болит душа по Беларуси? У кого сжимается сердце при виде горестей нашего народа? Ни у кого. Каждая конфессия использует боль народа для расширения своего влияния. Именно использует, а не печется или заботится.

Как бы мне хотелось, чтобы у нас была такая Церковь, которая принесла бы Мир в сердца и умы. Чтобы она была экуменическая, принимая в себя христиан и западного, и восточного обряда. И чтобы священники у нас были выросшие в селах и городах Беларуси, сострадающие простому народу — и поэтому не гребущие огромные деньги с прихожан, а иерархи нашей церкви не занимались бы политическими и финансовыми делами, но уделяли бы все внимание только служению Богу. Может, тогда проснулась бы у народа настоящая христианская вера...

Я очень люблю свою Родину и знаю, что встать с колен мы сможем только, если на то будет Воля Божья. А это возможно, если у нас будет единый для всей страны Заступник Беларуси перед Богом — Белорусская автокефальная церковь. Я уверена, что так думаю не я одна.

Пожалуйста, напечатайте мое письмо. И пусть другие христиане напишут то, что думают. И если будет Богу угодно, то мы обретем Свою Церковь, а с ней и цельность, и самостоятельность.

С уважением

**СНЕЖНАЯ Елена,** *г.Минск*

# Включите свет – и не бойтесь пугала

Поиском идеологии, способной объединить народ и дать максимальный эффект, занимаются многие. Но настоящая национальная идея, реальный суверенитет и правовое государство — пока лишь журавль в небе. Между тем президент и его нынешняя команда, похоже, решили довольствоваться «синицей в руках» — обеспечить самих себя. При этом они избрали старый, как мир, рецепт: основа их идеологии и стиля управления — страх.

В отличие от чувств, лежащих в основе других идеологий (национальной гордости, самостоятельности, законопослушности и т.п.), страх — одно из немногих человеческих чувств, позволяющих влиять на изменения поведения и характера деятельности практически всех людей, независимо от их положения в обществе. Учитывая, что основными формами данного стиля управления являются демонстрация силы, отдача приказов и поиск «врагов», получаем единственную роль, которую может играть лидер подобной команды, — роль «всенародного пугала».

Несмотря на простоту подобной идеологии, о ее эффективности в определенные периоды истории свидетельствует не только опыт других стран и поражение оппозиции у нас, но и то, что в нашем обществе практически не осталось групп, полностью свободных от этого «генератора страха».

Армейцы прекрасно понимают, что разваливающаяся на глазах экономика просто не сможет содержать армию, МВД, КГБ да и к тому же явно не вписывающуюся в классическое «сообразим на троих» специальную службу безопасности президента.

Солдаты внутренних войск, стоя в кордонах, знают, что люди восстают против бездарности и жадности высшего руководства страны, но бьют-то тех, кто стоит в кордонах, а не начальство. Отношения между КГБ и службой безопасности явно испорчены принципом, который использовал популярный киногерой Попандопуло — «это мне, а это опять мне». И все же для них армия и МВД — реальные конкуренты в борьбе за средства госбюджета. Армия и МВД — это вам не студентики с плакатами, а тренированные мужики с автоматами. Сильные трения между военизированными структурами при дальнейшем развале экономики неизбежны — общественный пирог не безразмерный и к тому же уменьшается.

Предприниматели вообще не знают, куда деваться: «крыша» защищает от таких же преступников, как и она сама, но требует денег. Государство защитить от «крыш» и рэкета не в состоянии, но денег требует в несколько раз больше. Не дашь одним — силой отберут и здоровье могут попортить. Не заплатишь другим — прикрывшись законом, тоже отберут.

Промышленники, лучше всех знающие реальные процессы в экономике, ничего хорошего не ждут. Многие из директоров из-за государственной экономической политики рискуют потерять работу и средства к существованию даже не по причине нелояльности к власти, а потому, что большая часть оборудования может просто-напросто в любой момент развалиться от старости!

Бюрократы (и простые госслужащие, и «вертикальщики», и новоявленные «депутаты» с «сенаторами») как проводники идеологии страха просто не могут не подвергаться его влиянию. Поэтому чемоданы с компроматом они друг на друга не из вредности собирают, а чтобы круговая порука была. Поэтому и оступиться, сказать что-нибудь не то — они как огня боятся: вышибут в пять секунд свои же бывшие коллеги. Страх заставляет забыть честность и порядочность. Так самозабвенно, красиво и увлеченно врать, обещать налево и направо «молочные реки и кисельные берега» можно только, спасая собственную шкуру.

Политики практически всех направлений (от коммунистов и аграриев до либерал-демократов), национальная интеллигенция, а также наиболее политически активная часть населения боятся не меньше других, но рискуют они больше. Любого «недовольного» могут вполне «заслуженно» избить или бросить в тюрьму. Для многих из них еще неизвестно, что страшнее: умереть из-за приверженности своим идеалам или отказаться от них. Угроза исчезновения нации, даже без ее физического вымирания, для них является отнюдь не пустыми словами, а отдается вполне реальной болью.

Радует, однако, то, что власть, пытаясь запугать этих людей еще больше, забывает, что «за битого двух небитых дают», т.е. подобными действиями она сама себе взращивает еще более жесткую и сплоченную оппозицию, чем нынешняя.

Несмотря на внешне молодцеватый вид, президентская команда и он сам боятся больше всех, так как отлично понимают, что, образно говоря, нет такой гайки, у которой нельзя сорвать резьбу. Все сильнее сжимая пружину народного терпения, они просто боятся задавать себе вопрос: «Сколько еще народ будет терпеть?» И остановиться им тоже нельзя — рухнет вся идеология, в лучшем случае дав им время на сборы. Они заставляют других бояться больше, чем боятся сами — в этом пока их спасение. Зачем «всенародно любимому» президенту такая большая служба безопасности? Чтобы защищать от малость оголодавшей, но по-прежнему любящей его толпы? Или, может, для придания массовости митингам в поддержку президента?

Страх действует просто: человек попадает в угрожающую ситуацию и в ответ возникает эмоция страха (непосредственная реакция на реальную опасность), которая приводит к различным видам поведения — ступору (неспособность что-либо делать вообще), бегству (переставлять ноги при этом необязательно — можно и «убегать» в пьянство, равнодушие, апатию или запугивание других и т.д.), нападению (в обществе это выражается забастовками, демонстрациями, пикетами и т.п., вплоть до вооруженного конфликта). Со временем происходит как бы «закрепление», и страх управляет поведением человека даже тогда, когда непосредственной опасности уже нет, и, может быть, вообще не будет.

У страха есть много интересных свойств, но наиболее уникальны и наиболее опасны из них два: «заразность» и способность отключать или сильно затруднять осознание действительности и самосознание. Это приводит к возможности диктата над обществом кучки авантюристов, которые физически не в состоянии всех «наказать», «разогнать» или посадить. Второй вариант — «я маленький человек, я ничего не могу изменить; голосуй, не голосуй — все равно получишь...» В основе такой позиции лежит не только боязнь возможного наказания, но и нежелание чувствовать вместо страха стыд.

Чем же закончить, чтобы не оставить неприятного осадка от такого количества употребления слова «страх»? Практически все люди проходят через период «ужасных» детских страхов, когда в углу мерещится ужасное чудище с кучей ног и зияющей пастью... Но стоит включить свет — и «чудище» оказывается телевизором, на котором стоит ваза с цветами. Так и с нашим общественным страхом. Если включить свет информации и присмотреться получше, то станет ясно: боимся мы пусть всенародного, но, в сущности, простого огородного пугала.

**Виктор ЛОЗОВСКИЙ,** *г.Минск*



